# НА ТЭМЫ ДНЯ

## МАТЧЫНА СЭРЦА — БАЦЬКАЎ РОЗУМ

Няма роднай матулькі — сьцямнела сонейка... Гэтак кажа аб маці народная мудрасьць. Мудрасьць нашага народу паважае цяперашчына, кладучы ў васнову сьвята ўсяго культурнага сьвету вялікае слова, якое кажны з нас навучыўся вымаўляць найперш.

Бацька, маці... Бацькаў розум, матчына сэрца... Гэта найбольш уплывовыя сілы чалавечага жыцьця, якія ўкладаюць сьветагляд і будучыню яго. Яны вызначаюць таксама псыхалёгію ўсяго народу. Наколькі моцная ідэя маральнасьці сям'і, гэтак-жа нязломны й дух народу, які даець той настрой, што яго завуць голасам Бога. Ёсьць народы высакавартасныя й ёсьць занялалыя. Нашыя прашчуры ўжо ў часох сівых народных твораў зьвярнулі на сябе ўвагу іншых сваймі высокімі разуменьнямі працавітасьці й гонару.

Сямейнае гнязьдзечка — дзіцяці найлюбейшае, ратунак ад усіх небясьпекаў, крыніца, якая задзіночвае ўсіх сваякоў. Браты й сёстры, як птушкі, зьлятаюцца на сьвятло сям'і: на хрысьціны, вясельле, хаўтуры. Абавязак пэўны кажнаму: прыняць у сваю сям'ю новага сябра, які панясець далей традыцыі роду, або разьвітацца зь нябожчыкам, які ганарова змагаўся за цяпліню роднага кута.

Сям'я — крыніца жыцьця й сілы бліжэйшых сваякоў. Як сонца ажыўляе няжывую прыроду, надае ёй сілу красаваць, зелянець, прыносіць плады, — гэтак сэрца маці сваёй цяплінёю адзіночыць і ўмацоўвае сяброў сям'і, каб ім стала вытрываласьці ў завірухах жыцьця, верыць і несьці далей жыцьцё роду да лепшае будучыні. «Калі ня я, дык мае дзеці будуць жыць і дасягнуць таго, чаго ня здолею я», — гэта было супакаеньнем кажнага беларускага бацькі, калі трэ было жыць і працаваць у нялюдзкіх абставінах. Калі гэтак думаюць шмат, дык само сабой зразумела, што сям'я мае куды вялікшае значаньне ў жыцьці гаспадарства й народу, чымся некаторыя павярхоўна гэта ўяўляюць. Сям'я — ня толькі крыніца жывой сілы, але таксама й маральнай. Рэдкі народ можа йснаваць, калі ў ім няма моцных асноваў ідэалу сям'і. Вялікая Рымская Імпэрыя згінула магчыма таму, што там разваліласся сям'я, заняпала мараль.

Сялянская гаспадарка ўва ўсіх краёх — гэта запраўдная захавальніца цяпліні сям'і. Урбанізм ці культура места ў гісторыі сьвету заўсёды больш ці менш пагражалі жывой сіле народу й магутнасьці краю.

Маленькаму чалавеку на сяле найпрыгажэй пачынаецца раніца вясны. Аднаўленьне сілаў зямлі, жыцьцё, прырода там усё разам. Дзеці там растуць разам з Жучком, бегаюць навыперадкі із жарэбчыкам і, поўнымі грудзямі п'ючы вясьнянае паветра, растуць здаровымі, пачуваючыся часткамі прыроды й сьвету.

Калі селавы хлапец ці дзяўчына і пойдуць пазьней у места, дык яны ніколі не забудуцца, што аднойчы ў маленсьцьве кахалі сонейка сям'і, сьвятыя словы Бацькі й Маці. Ім заўсёды будзе прыемным вясковы малюнак.

І ў мастацтве сярэднявечча культ маці зь дзіцяткам блішчыць праз імглу вякоў. Маці й дзіця, як сымбалі жыцьця, становяць супрацьуяўленьне зруйнаванага вайной сьвету, дзе пачынае неставаць працоўных рук.

Чалавечы чэрап з жудаснымі чорнымі западзінамі вачэй і Маці зь дзіцяткам змагаюцца й за нашае заўтра. Хто пераможа? Цяпер перажываем час пераацэны вартасьцяў, які змушае пераацаніць і зноў паважаць тыя зь іх, якія нам зацянілі імкненьне за танным блескам. Вецер застаецца ветрам. За намі апусьцілася зялезная заслона, якая схавала ад нас край нашага шчасьця. Якія словы мусім мы згадаць, каб узьняць заслону? Мы выгнаныя ў паўночную цемру, каб шукаць, зразумець і пераацаніць вартасьці, якія ня ўмелі цаніць, якія нам здаваліся недаволі дарагімі. Калі мы ўсё згубілі, засталіся толькі ўспаміны. Толькі цяпер адчуваем мы, што згубілі. Каханьне маці, розум бацькі... Гэты талісман асьвеціць нашыя гарачыя галовы, супакоіць сварлівых, прабудзіць надзеі, якія правядуць нас па сонечным шляху.

Калі недзе дабро найлепш сканцэнтраванае, дык гэта ў сэрцы матулі. У міталёгіі старадаўных усходніх народаў яго раўнуюць да ўраджайнае глебы. Неба-ж — гэта сымбаль недасяжных ідэалаў.

Да розуму далёкага бацькі, да Вялікага Кону, мы зварачаем свой зрок нашымі чорнымі днямі. Як народ, мы ня маем сяньня свае Матулі, якая сьвяціла-б сонейкам. Мы можам спадзявацца толькі на розум бацькі, які знойдзе шляхі, як аблегчыць нашую долю й запаліць пуцяводныя зоркі. Якія-б цяжкія дні ня ўсходзілі нам, розум бацькі будзе ведаць, колькі можам мы вытрываць. Цяжэйшым за нашыя сілы крыж ня будзе нам суджаны.

Частка нашае моладзі, якая топча шляхі выгнаньня, ня ведае, што прайшоўшы шляхі сьвету, яна павінна зьвярнуцца да Маці-Бацькаўшчыны. Шмат хто ня мае навет каму сказаць сьвятыя словы — тата, маці... Толькі ўспаміны яшчэ паляць сэрца, а думка аб будучыні несьціць надзеі.

У Дзень Маці далучымся да надзеяў і веры лепшае часткі, нашае моладзі, якая спадзяецца яшчэ пабачыць край свайго бацькі й маці й жыць дзеля ягонага дабра. Старадаўным звычаем успомнім і прывітаем ушанаваньнем аброслыя мохам курганочкі сваіх бацькоў на дарагой Бацькаўшчыне або ў тундрах Сібіру. Хай будзе ім пухам зямелька! Нашыя думкі зь імі. Успомнім таксама сяброў сям'і, падзеленых падзеямі вайны, якія лятуцяць ізноў сустрэцца й верыць у перамогу Боскае праўды. Прыйдзе дзень, ён мусіць прыйсьці, калі загояцца ўсе раны, а на сьвеце зноў запануе запраўдны спакой, які пануе ў сем'ях, у часе сьвятаў. Божа, дай нам волю і спакой ды незалежнасьць Бацькаўшчыны!

**Я. Дальняя.**

# ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ ВЯЛІКАБРЫТАНІІ

2-гі траўня сёлета адбыўся у Лёндане 2-гі Звычайны Агульны Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі.

Не зважаючы на ўсе натугі сп. М. Вуляка, які пры памозе групкі сяброў зь «Беларускага Хрысьціянскага Аб'еднаньня Работнікаў», стараўся зырваць Зьезд — Зьезд адбыўся вельмі памысна й пакінуў на ўдзельніках незацёртае ўражаньне.

Адчыніў Зьезд Старшыня ЗБВБ сп. Жук-Грышкевіч, які запрапанаваў пачаць працу Зьезду малітвай. Былі адсьпяваныя «Войча наш», «Магутны Божа» і гімн.

Гэты прыгожы ўрачысты мамэнт быў на кароткі час папсуты выступам сп. М. Буляка, якога падтрымвалі падпоеныя вышуспомненыя сябры з «Хрысьціянскага Аб'еднаньня Работнікаў». Сп. Буляк ультыматыўна накідаў Зьезду рэзалюцыю свае групкі, якая была загадзя ня толькі падрыхтаваная да подпісу, але й адбітая на ратататары ды падпісаная. Калі сп. Буляк спасьцярог, што Зьезд абураны падобным выбрыкам, даў загад сваёй групцы: «Хлопцы, выходзім!» і пакінуў разам зь імі залю.

Пасьля гэтага інцыдэнту Зьезд спакойна й рачова павёў сваю працу.

За Старшыню Зьезду быў выбраны сп. А. Бута. Зьезд прыняў рэгулямін і парадак дня зь 17 пунктаў.

На Старшыню Галоўнае Управы ЗБВБ аднагалосна быў выбраны ізноў сп. Жук-Грышкевіч; да Галоўнае Управы ўвайшлі: сп. праф. М. Нікань, сп. А. Бута, а. др. Ч. Сіповіч, сп. Лашук, сп. Надсон і сп. Бартуль. У Наглядную Раду былі выбраныя: сп. Воўк, сп. М. Мароз, сп. Арцюх, сп. Кляйноў і сп. Ул. Курыла. Згодна з прынятым на Зьезде Статутам ЗБВБ быў выбраны таксама Сяброўскі Суд, у склад якога ўвайшлі: сп. Ф. Саўчыц, сп. З. Сянкевіч, сп. Карась і сп. Швэд (як заступнік).

Дасюлешняй Галоўнай Управе, за вынткам трох завешаных сяброў, Зьезд прызнаў абсалюторыюм з падзякай.

Зьезд вынес колькі рэзалюцыяў, зь якіх да агульнага ведама падаём наступнае:

1) купоўлю Беларускага Дому ў Лёндане пастаноўлена давесьці да мэты. На прапанову сп. Р. усе, хто быў на зьезде, зложылі ахвяры на купоўлю Б. Д. у суме 32 фунтаў, а да сяброў, што ня былі на Зьездзе, пастаноўлена зьвярнуцца з заклікам аб прысыланьні паводля магчымасьці ахвяраў,

2) вынесеная таксама рэзалюцыя што да Беларускага Нацыянальнага Прадстаўніцтва, якую падаём асобна;

3) Зьезд выбраў пяць асабаў, як кандыдатаў у Раду БНР і зьвярнуўся з просьбай да Сп. Прэз. М. Абрамчыка аб зацьверджаньні іх і прыняцьці ў Раду БНР у належным прапарцыянальным ліку;

4) былі выключаныя зь сяброў ЗБВБ за дэструкцыйную працу ў ЗБВБ сп. Міхал Буляк і сп. С. Сэрафіновіч, а таксама сп. А. Бурак за неадпаведнае захаваньне на Зьездзе.

Зьезд трываў цэлы дзень ад 10 г. раньня да 11,30 начы. З правам пастаноўнага голасу сяброў ЗБВБ дэлегатаў было 50 чалавек, згодна з пратаколам мандатнае Камісіі. Бесьперапыннасьць працы Зьезду аблягчылі добра прыгатаваныя сяброўкамі закускі й гарбата.

Калі цяжкая праца 2-га Агульнага Зьезду ЗБВБ была памысна закончаная, з радасьцяй і энтузіязмам быў адсьпяваны нацыянальны наш гімн.

Няма няпэўнасьці, што 2-гі Агульны Зьезд ЗБВБ — гэта другі паважны крок наперад у беларускім арганізацыйным жыцьці ў Вялікабрытаніі.

**Дэлегат.**

### РЭЗАЛЮЦЫЯ 2-га АГУЛЬНАГА ЗЬЕЗДУ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАБРЫТАНІІ

Другі Звычайны Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, пасьля разгляду справы Беларускага Нацыянальнага Прадстаўніцтва, пастанавіў:

1) Уважаць за легальнае беларускае нацыянальнае прадстаўніцтва Раду і Ўрад БНР;

2) Зложыць падзяку Радзе БНР з Прэзыдэнтам яе на чале і Ўраду БНР за іхную ахвярную й натужную працу й годнае рэпрэзэнтаваньне беларускага народу;

3) Лічыць акцыю б. Прэзыдэнта БЦР сп. Астроўскага, ськіваваную на аднаўленьне БЦР, як канкурэнцыйную Радзе і Ўраду БНР, а гэтым самым шкодную, бо гэтая акцыя разьбівае беларускае жыцьцё.

Лёндан, 2 траўня 1948 г.

# КАНГРЭС ПАНЭЎРОПЫ

## ПРАМОВА ЧЭРЧЫЛЯ

**Гаага (ДЭНА-Рэйтар).** Пры адчыненьні панэўрапейскага кангрэсу абраны за ягонага пачэснага старшыню былы брытанскі прэм'ер-міністар Чэрчыль заклікаў да стварэньня эўрапейскага парлямэнту.

«Заданьне, якое мы паставілі сабе на гэтым кангрэсе, — сказаў ён, — гэта ня толькі ўзьняць голас Эўропы, як задзіночанага цэлага. Мы мусім тут і цяпер пастанавіць, што павінен быць створаны ў якой-небудзь форме эўрапейскі збор, праз які гэты голас заўсёды можна было-б чуць і — як мы моцна верым — з усё большым зразуменьнем ува ўсіх вольных краёх гэтага кантынэнту. Рух за эўрапейскае адзінства мусіць быць дынамічным выразам дэмакратычнага даверу — пазытыўнае сілы, што чэрпае сваю моц з духовых вартасьцяў нашага агульнага сьветагляду. Мэта канфэрэнцыі не абмежваецца толькі аднэй Заходняй Эўропай, але кліча да супрацаўніцтва цэлы эўрапейскі кантынэнт. Нашая мэта — каб аднойчы ў нашай працы ўзялі ўдзел усе народы кантынэнту, чый грамадзкі й жыцьцёвы лад не стаіць у супярэчнасьці з хартыяй правоў чалавека й вольнай дэмакратыяй. Мы запрашаем усе гаспадарствы, у якіх урадуе народ, а ня ўрад пануе над народам».

«Гэта гордая місія гаспадарстваў-пераможцаў, — сказаў далей Чэрчыль, — узяць Немцаў пад руку і ўвесьці іх зноў у эўрапейскую сям'ю. Эўропа патрабуе ўсяго, што ў стане даць Французы, Немцы ды ўсе іншыя».

## ЗАКЛІК ДА ЎСІХ

**Гаага (ДЭНА-Рэйтар).** Панэўрапейскі кангрэс пастанавіў аднагалосна заклікаць усе няўдзельныя на канфэрэнцыі нацыі далучыцца да ідэі задзіночанай Эўропы.

## УСХОДНЯЭЎРАПЕЙСКАЯ АПАЗЫЦЫЯ Й КАНГРЭС

**Парыж (ДЭНА).** Прадстаўніцтва ўсходня-эўрапейскае апазыцыі ў Парыжы ськівавала Панэўрапейскаму кангрэсу ліст, у якім выказвае свой жаль з прычыны, што яно ня можа выслаць сваіх дэлегатаў на Кангрэс. Арганізацыя, якая завець сябе «Прадстаўніцтвам вольнае думкі народаў Беларусі, Баўгарыі, Вугоршчыны, Лацьвіі, Летувы, Польшчы, Румыніі, Славаччыны, Югаславіі ды Ўкраіны», піша між іншага, што яна перакананая, што Эўропа бяз гэтых гаспадарстваў, якім СССР забараняе ўсякае супрацаўніцтва з Захадам, будзе заўсёды непаўнастойная. Гэтак званыя ўрады гэтых краёў — ніякім парадкам не прадстаўнікі іхных народаў, а ледзь марыянэткі ў руках сваіх савецкіх валадароў.

## РОЎНАСЬЦЬ УСІХ УДЗЕЛЬНІКАЎ

**Гаага (ДЭНА-Рэйтар).** Палітычная камісія Панэўрапейскага кангрэсу аднагалосна прыняла рэзалюцыю, у якой сьцьвярджаецца, што народы ўсіх эўрапейскіх гаспадарстваў, улучна з падданымі краёў з-за «зялезнае заслоны», павінны атрымаць на кангрэсе статут поўнае роўнасьці.

## ПРАЦА Ў КАМІСІЯХ

**Гаага (ДЭНА-Рэйтар).** Эканамічная група панэўрапейскае канфэрэнцыі пастанавіла прапанаваць пленуму канфэрэнцыі абмеркаваць магчымасьць стварэньня агульнае эўрапейскае валюты.

У пастанове, пададзенай пленуму, між іншага, прапануецца стварэньне камісіі для справаў іміграцыі й эміграцыі й дзеля разьмяшчэньня 1½ міліёну ДП, а таксама для маральнага й матар'яльнага падтрыманьня былых ўдзельнікаў вайны.

## БРЫТАНСКАЯ ПАЛІТЫКА

**Лёндан (ДЭНА-Рэйтар).** Міністар замежных справаў Бэвін, адчыняючы разьлічаныя на два дні замежнапалітычныя дэбаты ў ніжнай гасподзе, даў агляд пытаньняў замежнае палітыкі й заявіў, што ёсьць вельмі мала выглядаў на трывалае заладжаньне разыходжаньняў у паглядах між Вялікабрытаніяй і СССР, пакуль Крэмль ня зьменіць свайго ідэялёгічнага настаўленьня. Тое, што перашкаджае згодзе, — гэта пагляд Крэмля, паводля якога кажнае рэгуляваньне, што закранае Вялікабрытанію й СССР, мусіць служыць камуністычным мэтам.

У сваіх высновах міністар заняў становішча да наступных праблемаў:

**Нямеччына:** «Мы ў Бэрліне паўнапраўна й маем намер там заставацца. Мы выступаем, як і раней, за прынцып нямецкага адзінства, але мы мусім прыймаць факты, як яны ёсьць, і прызнаць, што цяпер мы ня можам ужыцьцёвіць гэтае мэты. Мы будзем рабіць усё, што ў нашых сілах, каб стварыць ізноў Нямеччыне палітычна й эканамічна разумны й здаровы жыцьцёвы стандарт. Пакінуць Нямеччыну ў стадыі неасьведамленасьці — значыла-б адцягваць ейнае аздараўленьне».

**Палестына:** Вялікабрытанія ў ніякім разе ня будзе падтрымваць ніякага рэгуляваньня, якое адначасна ня было-б прынятае і Жыдамі і Арабамі. «Мы застаёмся пры нашай пастанове трымаць палестынскі мандат толькі да 15. 5.».

**Заходняя вунія:** «Гэтая вунія робіць нас канчальна запраўднай часткай Эўропы. Пакт для ўсіх пяцёх нацыяў абазначае заданьне пэўнага нацыянальнага інтарэсу і ў некаторых выпадках выражае істотныя інтарэсы на карысьць агульна-эўрапейскага дабра. Мы ў ніякім разе ня маем намеру даць адцягнуць сябе ад вялікіх практычных заданьняў якімі-небудзь тэарэтычнымі меркаваньнямі над пытаньнем сувэрэнітэту».

**Аўстрыя:** «Мы гатовыя й надалей быць цярплівымі, калі гэта спрычыняецца да ўжыцьцёўленьня нашае мэты — аднаўленьня запраўды вольнае й сувэрэннае Аўстрыі. Цяпер здаецца, што заканчэньне ўмовы наблізілася».

**Італія:** У Італіі, на Бэвінаў пагляд, трэба перамагчы яшчэ вялікія перашкоды, пакуль будзе зусім ясна, якую ролю адыйграе Італія ў паваенным сьвеце. Трыест павінен быць аддадзены Італіі.

На канчатак Бэвін заклікаў да ўздыму прадукцыі й заявіў, што хвабрыкі, шахты й майстроўні павінны даць такі самы ўклад у справу сусьветнага міру, які зроблены ў дыплёматычнай галіне.

# СПРАВЫ ДП

### У СПРАВЕ ВЫЕЗДУ Ў АРГЕНТЫНУ

**Камунікат Перасяленскага Рэфэрэнта Беларускага Нацыянальнага Камітэту.**

Беларусы, якія маюць статус ДП, або толькі права на эміграцыю, а жадаюць выехаць у Аргентыну, павінны зложыць наступную заяву:

У Згуртаваньне Беларусаў у Аргентыне,
Calle Maza, 150, Buenos Aires

Гэтым ветліва прашу вырабіць мне афідавіт дзеля ўезду ў Аргентыну. Забавязваюся прыняць кажную працу ў маім фаху, або ў галіне, згоднай майму фаху. Таксама забавязваюся зьвярнуць усе кошты, панесеныя З. Б. у А. у сувязі з маім пераездам.

1. Імя й прозьвішча . . . . . . . . . . .
   Імі бацькоў . . . . . прозьв. маці . . . .
2. Месца й дата нараджэньня . . . . . . . .
3. Сямейны стан . . . . . Імя жонкі . . . .
   дачка . . . з дому . . . прафэсія . . .
   радз. . . дзеці: 1 . . . 2 . . . 3 . . . 4 . . .
4. Нацыянальнасьць . . . . . . . . . . .
5. Веравызнаньне . . . . . . . . . . . .
6. Прафэсія . . . . Скончыў школу . . . .
   пабочная прафэсія . . . . . . . . . . .

Дата: . . . . . Подпіс:

Лекарскі агляд:

(Лекар павінен напісаць, ці здольны працаваць у сваім фаху).

Дата. Др. мэд. . . . .

Апінія Прадстаўніка Белар. Нац. Камітэту:

пячатка: подпіс:

Гэтак выпаўненыя анкеты Зонны Старшыня Бел. Камітэту, або Спадары Старшыні Бел. Нац. Групаў перасылаюць на адрыс:

Senor K. Mierlak, Asosiacion Bielorusa en la Argentina, Calle Maza, 150, Buenos Aires.

Пацьверджаныя Прадстаўніком БНК анкеты можна таксама перасылаць індывідуальна. Найлепш выкарыстоўваць паветраную камунікацыю: ліст даходзіць хутчэй на 2-3 тыдні. Грамадзяне, якія не аплацілі грамадзкага падатку, з вышэйпададзенага не карыстаюць.

4. 5. 48 г. **Перасяленскі Рэфэрэнт БНК.**

### ЭМІГРАЦЫЯ НАСТУПНЫМІ МЕСЯЦАМІ

**Брэмэнгафэн (ДЭНА).** Як паведамляе ІРО, наступнымі двума месяцамі выедуць у ЗША, Канаду, Аргентыну й Аўстралію 18.6000 ДП. Гэты ўздым ліку эмігрантаў стаецца магчымым дзеля павялічанага прыдзелу караблёў на гэтую мэту.

Супраць ранейшых транспартэў, у ЗША паедуць толькі 1.600 ДП, бо эміграцыйная квота на 1947-48 г. г. ужо выкарыстаная.

### БРАЗЫЛІЯ БЯРЭЦЬ БОЛЬШ

**Жэнэва (ДЭНА).** Паводля АФП, ІРО падае, што між бразылійскім урадам і ІРО падпісаная ў Рыё-дэ-Жанэйро ўмова аб павялічэньні ліку эміграцыі ДП у Бразылію.

**Рыё-дэ-Жанэйро (ДЭНА).** У выніку супольных намаганьняў бразылійскага ўраду й ІРО ў Бразыліі аселена каля 3.800 ДП. Апрача таго, як падаюць урадаўцы ІРО, на аснове новае ўмовы з Бразыліяй туды выедуць яшчэ 1.200 ДП. Новыя эмігранты, бальшыня якіх набіраецца з эўрапейскіх лягераў ДП, знойдуць занятак у сельскай гаспадарцы і ў прамысловасьці

### У КАНАДУ

30. 4. выехала 200 ДП зь Мюнхену й 150 ДП з Буцбаху, якія разам 5. 5. адплылі з Брэмэнгафэну на параплаве «Марына Джэмпэр» у Канаду. Сярод мюнхэнскае групы 55 дарожных работнікаў, 150 муляроў, рэшта — блізкія сваякі канадзкіх грамадзянаў. Тое самае прыблізна і ў буцбахскай групе (муляры, тынкоўнікі, блізкія сваякі).

### СЬВЯТАРЫ Ў БЭЛЬГІЮ

На просьбы ДП, што працуюць у Бэльгіі, пры адным із транспартаў з Буцбаху выехалі два праваслаўныя сьвятары. Абодва яны Украінцы польскага падданства. Яны будуць мець сваю сядзібу ў Льежы, дзе ў шахтах працуе колькі тысячаў ДП.

Яшчэ 12 духаўнікоў павінны выехаць у Бэльгію бліжэйшымі тыднямі.

### ІЗНОЎ САВЕЦКАЯ МІСІЯ...

**Вена (ДЭНА-Рэйтар).** Як паведаміла галоўная гаспода амэрыканскае арміі, савецкая рэпатрыяцыйная місія зь 10-х асобаў атрымала дазвол затрымацца на 6 тыдняў у амэрыканскай акупацыйнай зоне Аўстрыі.

**Н. АРСЕНЬНЕВА**

### МАЦІ

Маці!
За кужэльную шэрую нітку даўжэйшы твой [смутак па нас,
За кужэльную шэрую нітку з твайго калаўроту.
Хай вішнёвай паводкаю плешча у вокны вясна, —
Да цябе яна прыйдзе адно разам з нашым зваротам.

Маці!
І мы прагнем, як Сьветлага Прыйсьця, тых дзён,
Калі радасьцяй зыркай ізноў загараць твае вочы,
І хоць нашыя сэрцы ўкавала на камень жыцьцё, — [вызнаём:
Да Цябе мы, як дзецьмі калісь, прытуліцца так горача [хочам.

### «MINTIS» АБ БАЛТЫЦКАЙ ФЭДЭРАЦЫІ

Найвялікшая на выгнаньні летувіская газэта «Mintis» (Думка) выдаецца 3 разы на тыдзень у Мэмінгэне (Паўдз. Баварыя). Парыскі супрацаўнік яе Броніс Райла надрукаваў у колькіх нумарох вялікшы артыкул «Канспэкт нашага фэдэралізму».

Калісь народы, што жылі каля Балтыцкага мора, называліся «Aestiorum Gentes», але цяпер гэтае імя ўзялі сабе Эсты, ці Эстонцы, народ фінска-ўральскі. У навуцы больш ужываецца тэрмін «Балты», зразумела, ня ў тым сэньсе, як ужывалі яго Гітлер-Гэбэльс-Розэнбэрг («Балты» — прыбалтыцкія Немцы).

Б. Райла ўважае, што імя «Айстыс», прыгажэйшае за «Балт». Каго-ж хоча залічыць Райла да фэдэрацыі? Летувісаў, Латышоў, Эстаў. Хацеў-бы ён залічыць да фэдэрацыі і «той рэгіён, што у пазьнейшых часох прыняў імя Беларусі («Гудыя» палетувіску), г. зн. землі, дзе гэтулькі было й засталося родных нам із крыві людзей, якія праз колькі стагодзьдзяў прыродна й праўна стваралі інтэгральную частку Літоўскага Вялікага Княства. Яны ўнесьлі гэткі каштоўны ўклад у нашую культурную й гаспадарстваўскую мінуўшчыну»...

Што да арганізацыяў перадваенных часоў, як «Летувіска-латыскае адзінства» і «Летувіска-эстонскае адзінства», дык аўтар уважае іх за мала карысныя, трэба шукаць новых шляхоў да зблізкэньня балтыцкіх народаў.

Цікава заценіць, што ў Летуве да 1940 г. існавала яшчэ колькі таварыстваў культурнага супрацаўніцтва зь іншымі краямі, прыкл. летувіска-ангельскае, летувіска-францускае й г. д. Было летувіска-жыдоўскае таварыства. Але-ж ня было зусім ні летувіска-польскага, ні летувіска-беларускага таварыстваў. Узаемадачыненьні з Палякамі былі ў 1920—1938 г. г. дрэнныя, але-ж і зь Беларусамі? Да 1924 г. ў Летуве былі беларускія асобныя вайсковыя часткі, міністэрства беларускіх справаў і г. д. Пасьля сьметонаўскага путчу 17. 12. 1926 г. усё зьгінула...

**Завілейскі.**

**М. ВОЛЬНЫ**

## МАЦІ

— Дзе маці? — папытаўся я ў дзяцей, якія гулялі перад хатай.

— Яна пайшла на крыніцу па ваду, — каротка адказала дзяўчынка ў выцьвілай сукенцы, якая не закрывала ейных бурых, запэцканых каленак. Затым яна пусьціла на зямлю каточка, якога трымала на падале, і некуды зьнікла. Дзеці разьбегліся. Але яны былі дзесьці тут сама. За кустом бэзу, за займшэлым плотам, за кустом парэчак, усюдых я бачыў цёплыя вочкі, якія ціха аглядалі мяне. У травіцы, якая расла тут мяккой і густой ад даўных дзён, я чуў хуткі дых і стрыманы сьмех. Тут было шмат дзетак. Імі быў поўны гэты вясёлы спакой сяла й цішыня.

Я сеў на шэры камень перад дзьвярыма, і на мяне апусьціўся сьцень ад нізкое саламянае страхі. Гэтая страха была гэткай-жа чорнай і пракурэлай дымам, як маё маленства, а сьцень ад яе быў цёмны й густы. Але траўка зелянела перад хатай таксама раўнютка, як і раней, быццам час зусім не крануў гэтага ціхога куточка. У прысаднічку, на градках вясёла красавалі браточкі, а старая яблына, прыемная хросная майго маленства, якая заўсёды абдароўвала мяне салодкімі яблыкамі, таксама бязупынна давала плады, якімі красаваліся верхнія галіны яе. Я прыйшоў адведаць сяброўку маіх дзіцячых дзён Марыську — ці ўсё гэта былі ўжо ейныя дзеткі, якія там дыхалі й сьмяяліся за кажным кутом, кустом і дрэвам, якія глядзелі на мяне з усіх шчылінаў плоту... Затым я пачуў нечыю сьпеўную гутарку, якой гавораць із дзіцянём; адусюль пачуўся тупат ножак, і я бачыў толькі трасучыся чубы белых валасоў, якія мільгацелі, абмінаючы мяне. Маці вярталася да хаты. Трымаючы на аднэй руцэ малога, яна тварам павярнулася да яго й знаходзіла гэтулькі пяшчотных словаў, каб яго забавіць. Іншыя дзеці — нейкіх шасьцёра — адзін меншы за аднаго, цапаліся за ейную спадніцу й скакалі навокал. Я пайшоў ёй напярэймы.

Яна была загарэлай, як Гануля, якая вярталася із жніва, таксама троху схілёнай была яна, а ейныя валасы крыху пашарэлі ад турботаў.

Але ўсьміхацца ўмела таксама жыва й вясёла сваім маленькім ратком, які ў маленьсцьве ўмеў гэтулькі злаваць мяне і дражніць. Яна паставіла вядро на зямлю, борзда спусьціла на босыя ногі высака ўзьнятую спадніцу й зьбянтэжана працягвала мне руку.

— О, як доўга нябачаны! — сказала яна гучна й сумна, і зь ейнага голасу я зразумеў, што між нас зьявілася нейкая воддаль, — усе гэтыя гады, якія мінулі за той час, пакуль я вандраваў па сьвеце. Мы пачалі гутарыць, і я даведаўся, што яна мае дзевяцёра дзяцей — Янук працуе ўжо ў гаспадара, Валя ходзіць у народную школу, а весь Пятрук — таксама ўжо пасьвіць жывёлу, яна паказала на хлопчыка з высокім чалом і шэрымі вачыма. Ейны муж езьдзіць на заработкі — яны маюць свайго каняку, цяпер павёз у места масла скупшчыка. Праз высокі парог мы ўвайшлі ў нізкі пакой з закуранай столяй і гліняннай падлогай у ямах. Яна падала мне крэсла, а сама села на край шырокага ложка, на якім скруціўшыся ляжала шэрая котка зь пярэстымі кацянятамі. Дзеці паселі вакол яе й бралі на рукі кацянятаў, якія квола мурмыкалі. У гэтай хаце усё было гэтак цудоўна простым; на бела вышараваным бярозавым стале стаяла толькі бурая гліняная конаўка, а шырокі ложак, на якім Марыська дзевяць разоў дала новае жыцьцё і дзе знайшла месца й котка з кацянятамі, мне здаваўся аўтарам несьмяротнасьці нашага народу.

— Як ты жывеш? — папытаўся я ў Марыські крыху зьбянтэжана.

— Жыву, — адказала яна і ўсьміхнулася: — Спачатку пакармлю дзетак, потым паем сама. Але мае дзеткі, дзякуй Богу, сытыя, — дадала яна зь ціхім спакоем і гордасьцяй.

«О, прыгожая матуля, — ціха падумаў я, — ты магла-б даць род усяму парожнаму сьвету, каб ня былі абязьлюджанымі Віцебшчына й Меншчына, Віленшчына, Піншчына й Горадзеншчына, Смаленшчына й Слонімшчына, уся наша шчырая, васількова-жытняя Беларусь. Рана пачынаюць працаваць і кахаць твае сыны, і сваймі маладымі плячыма ды дужымі рукамі яны збудуюць тое, што цяпер зруйнавалі ворагі».

---

**А. МЭЛЬК**

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

Высокае й скалістае гэтае ўзвышша, на якім пабудаваны дом, дзе цяпер жыву.

Я гляджу адгэтуль уніз і бачу сярод скалаў разьлеглае возера й зялёныя лясы на ягоных берагох, і абтокі. Бязгучная цемра зіхаціць тысячамі агнёў гораду, і я чую ягоны бязупынны гоман сьпяшаньня. І калі я ня сплю яшчэ позна, як гэта часта здараецца, дык бачу возера, што зьнікае ў цемру, і робіцца радасна ад хуткага ўсходу сонца. Я бачу яго апаўдні, калі вадаплавы йдуць аднекуль і адыходзяць кудысь ды ўплятаюць у ваду шлях, што адразу зьнікае. Я бачу яго ўвечары, калі дождж зь неба падае ў ваду й зноў — у прыемны час, калі залаты бліск вячорнага неба люструецца ў глыбіні вады. І бачу ўраньні, калі яно перад усходам сонца робіцца ясным, чыстым і далёка бачным.

Тады часам здараецца, што да мяне падыходзіць мая дачка й бярэць маю руку. Яна імкнецца тады ўзірацца далёка праз ваду й зямлю ды пытаецца:

— Ці гэта ўсё Швэдыя?

— Гэта ўсё Швэдыя, — адказваю ёй.

— Ці гэтая краіна вельмі вялікая? — хоча яна ведаць.

— Гэтая краіна вельмі вялікая. Яна цягнецца далёка на поўнач, і яна даходзіць да мора на паўдні. Яна ляжыць па гэты бок вазёраў і па той бок гораў, якія гэтак сінія, што яны мала ня зьліваюцца зь небам.

— Ці месца, дзе зямля зыходзіцца зь небам, вельмі далёка? — пытаецца яна.

— Яно вельмі далёка...

— Ці гэтак далёка, як мора? — дапытваецца яна, дзівячыся.

— Яно далей, як мора.

— Ці гэтак далёка, як Бацькаўшчына? — пытаецца яна й паварочвае да мяне свой твар. Я не адказваю ёй нічога.

Я чую ейнае пытаньне й пачынаю думаць, як-жа далёка Бацькаўшчына? Я заплюшчваю вочы й спрабую ўгледзець гэтую старонку й бачу тады ейныя гаспадаркі й хаты, ейныя шляхі й народ. І бачу я ейныя нівы збожжа ў сваіх вачох і людзей пад любым небам Радзімы. Усё гэта не далёка. Раптам яна тут, зусім і беспасярэдня зы мной, у маіх вачох.

— Наш родны край недалёка, — кажу ёй тады. — Ён ня можа быць далёка, бо ён усюды з намі, і ён жывець з намі датуль, пакуль жывець нашае сэрца.

Яна цяпер мацней цісьне маю руку й глядзіць на мяне сваймі вялікімі, поўнымі зьдзіўленьня вачыма ды ня пытаецца больш нічога. Але я апавядаю ёй аб гэтым краі, што ляжыць за вадой, там, дзе неба зыходзіцца зь зямлёй, і што тым-жа часам заўсёды з намі, куды-б мы ні пайшлі ці пабеглі. І пакуль я гэтак казаў, зразумеў я, што й яна бачыць наш край і што ён ёй блізкі ды ня будзе ніколі далёкім, таксама як ня станецца далёкім ёй ейнае собскае сэрца.

Пераклаў з эстонскае **М. В.**

# *Па куткох эміграцыі*

## НЯЧУВАНЫ ЗЬДЗЕК
### НАД НАЦЫЯНАЛЬНЫМІ СЬЦЯГАМІ Й СКАЎЦКІМІ ЭМБЛЕМАМІ

6-га травеня старым праваслаўным звычаем беларускія скаўты на чужыне абходзяць сьвята Сьв. Юр'я — апякуна міжнароднага скаўтынгу. Штогоду праграма сьвята пачынаецца малітвай у царкве й заканчваецца скаўцкім вогнішчам, дзе ля высьвячаных скаўцкіх штандараў ад скаўтаў прыймаецца прысяга на вернасьць Богу й Бацькаўшчыне.

Сёлета на сьвяточную ўрачыстасьць у Міхэльсдорф прыбыў сьцяг скаўтаў зь лягеру Віндышбэргэрдорфу. Урачыстасьць, згодна з праграмай, прынятай у паразуменьні з выкладчыкам рэлігіі Гімназіі й настаяцелем царквы ў Міхэльсдорфе а. М. Лапіцкім, мусіла пачацца а 10-ай гадзіне ўраньні набажэнствам у царкве, на якое скаўты ў ліку 150 асобаў павінны былі прыйсьці арганізаваным парадкам із сваймі штандарамі. І вось, усе тры сьцягі ў скаўцкай уніформе ўрачыста выстраіліся ля царквы. Па адданьні адпаведных гонараў сваім сьвятым штандарам, штандары, як і заўсёды дагэтуль, у асысьце ганаровае варты ўрачыста ўносяцца ў царкву. Але як толькі штандар дзявочага сьцягу, на абодвых бакох якога напісана «Беларусь», апынуўся ў царкве, на скаўтаў адразу кінуліся царкоўны староста **Запольскі Міхал, Алехнік Апанас і Парэцкі Міхал.** Яны зьдзерлі штандар із дрэўна, кінулі яго на падлогу й пачалі таптаць нагамі. У гэтым мамэньце у царкву быў унесены штандар хлапцоўскага сьцягу із напісам на адным баку — «Беларусь», а на другім — «Крывія». Гэтая-ж самая кампанія кінулася й на другі штандар, зьдзерла яго, кінула на падлогу, і пад ботамі зміагацелі бел-чырвона-белыя палосы зь літарамі нашага нацыянальнага ймя. Зьбянтэжаныя скаўты, аглушаныя такім нечаканым нападам, ужо хацелі кінуцца бараніць гонар сваіх нацыянальных штандараў зь міжнароднымі й беларускімі скаўцкімі эмблемамі, але сьвятар а. Кайка, які заступаў а. Лапіцкага, перапыніў набажэнства, у рызе й з крыжом наблізіўся да месца ганебнага выпадку й пачаў крычэць таксама на скаўтаў. Тады скаўты, падабраўшы з падлогі свае зьнявагажаныя штандары, выйшлі із царквы. Яны адмаршавалі на спартовы пляц, прымацавалі зьнявечаныя штандары да дрэўкаў і, аддаўшы ім належны гонар, усе адзін па адным падыходзілі да сваіх забруджаных і абражаных нацыянальных штандараў, ставалі на калены ды зь сьлязьмі навачну цалавалі іх. Ля гэтых штандараў нашыя скаўты ўжо ці раз складалі прысягу на вернасьць Богу й Бацькаўшчыне. Адзін зь іх — хлапецкі — быў ахвяраваны скаўтам а. Лапіцкім і высьвячаны ў Рэгенсбурскай праваслаўнай царкве епіскапам Апанасам. Ля яго яшчэ 25-га Сакавіка 1946 г. першыя беларускія скаўты ў Нямеччыне ўрачыста прысягалі змагацца за незалежнасьць Беларусі. Другі штандар — дзявочы — быў высьвячаны а. Лапіцкім ужо ў Міхэльсдорфскай царкве.

На нячуваны ў культурным грамадзтве ўчынак пачалі зьбягацца жыхары лягеру й выказваць сваё глыбокае абурэньне. Але знайшліся й абаронцы гэтага ганебнага чыну. Гэтыя абаронцы з боку сяньняшняе лягернае адміністрацыі нат загадзя ведалі, што так станецца. Сябра Лягернае Рады **Шыбут Хведар** яшчэ ад самага раньня на ганку 3-га бараку падбухторваў Запольскага й Парэцкага да «чыну». А прадстаўнік лягернае адміністрацыі — сакратар цэнтральнае выбарнае камісіі у г. зв. эміграцыйнае прадстаўніцтва — **Ксенафонт Вайцяхоўскі** на рэпліку абуранае настаўніцы Гімназіі, у якой ён вучыць сваіх дзяцей, крыкнуў: «Замкні сваю морду!»

Гэты абуральны факт у лягеры Міхэльсдорф — ужо ня першы выпадак абразы нашых нацыянальных штандараў і выступленьняў супраць беларускіх інстытуцыяў, а галоўна супраць Гімназіі, народнае школы й беларускіх скаўтаў. У лягеры ўжо быў выпадак, калі адзін із жыхароў, на якіх абапіраецца сяньняшняя адміністрацыя, на бел-чырвона-белы сьцяг, што разьвяваецца над лягерам, сказаў: «Повесили тряпку и думают, что знамя».

Летась увосень камандант лягеру перадаў у Кам на суд скаўцкіх кіраўнікоў з мэтаю пасадзіць іх у турму, але амэрыканскі губэрнатар апраўдаў. Затым зусім беспадстаўна адміністрацыя лягеру хацела зьняць з працы настаўніцу пачаткавае школы, але на інтэрвэнцыю бацькоў вучняў і Беларускага Настаўніцкага Саюзу ў IPO, апошняя не дапусьціла да гэтага. 24-га сакавіка сёлета камандант лягеру Барыс Шчорс ня даў Гімназіі вольнае лягернае залі для абходу 30-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі і г. д.

Так ботамі па нацыянальных штандарах «самыя запраўдныя дэмакраты» дэманструюць свой «беларускі патрыятызм».

Штаб скаўцкага штандару «Баварыя» й Беларуская Гімназія ў знак пратэсту ў пятніцу 7-га травеня не займалася.

Апякун беларускіх скаўтаў на амэрыканскую зону Нямеччыны **Ф. Кушаль.**
Дырэктар Беларускае Гімназіі ймя Янкі Купалы — апякун міхэльсдорфскага сьцягу скаўтаў **Др. А. Ворса.**

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

**агульнага сходу аддзелу Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў беларускага лягеру Віндышбэргэрдорф ад 8. 5. 1948 г. у сувязі зь дзікунскім нападам на беларускую скаўцкую арганізацыю й парваньнем ды патаптаньнем штандараў 6 траўня 1948 г. у царкве беларускага лягеру ў Міхэльсдорфе.**

1. Прызнаць, што гэты напад інсьпіраваны пракамуністычнымі й русафільскімі элемэнтамі, якія хаваюцца пад шыльдам ДП у лягерах і вядуць падрыўную дзейнасьць.

2. Дамагацца ад IPO выключэньня гэтых элемэнтаў зь лягеру; у сувязі з гэтым паміж IPO і Нацыянальным Камітэтам высяленцаў мусіць быць наладжаны кантакт.

3. Паінфармаваць усе беларускія арганізацыі й грамадзкасьць праз газэту «Бацькаўшчына» аб дзікунскім нападзе на безбаронных беларускіх дзяцей у дзень сьвяткаваньня дня сьв. Юр'я-патрона скаўтаў, 6. 5. 48, парваньні ў царкве й патаптаньні двух скаўцкіх штандараў, пасьвячаных вышэйшым духавенствам праваслаўнай царквы.

4. Выказаць пагарду адміністрацыі лягеру Міхэльсдорф, якая культывуе ў сваім асяродзьдзі чарнасотніцкія, расейска-шавіністычныя элемэнты й дае ім глебу для эксцэсаў супраць Беларусаў і іхных дзяцей.

**Сакратар** (подпіс) **Старшыня** (подпіс)

## «АБ'ЯДНАНЬНЕ БЕЛАРУСКІХ ЛЕКАРОЎ НА ЧУЖЫНЕ»

«Аб'яднаньне Беларускіх Лекароў на Чужыне», якое паўстала ў выніку зьезду беларускіх лекароў у Марбургу летась увесну, арганізацыйна абыймае лекароў, дэнтыстых і фармацэўтаў, ды таксама студэнтаў гэтых трох прафэсійных галінаў (студэнтаў у якасьці сяброў-кандыдатаў).

Задача АБЛЧ — утрымаць прафэсійную ды нацыянальную лучнасьць паміж раськіданымі па сьвеце беларускімі лекарамі, узаемная маральная, прафэсійная ды матар'яльная самадапамога, лучнасьць і супрацаўніцтва зь беларускім арганізаваным грамадзтвам на эміграцыі.

За першы год свайго йснаваньня АБЛЧ правяла асноўную арганізацыйную працу, правяла рэгістрацыю й навязала лучнасьць зь беларускімі лекарамі на чужыне, выставіла сяброўскія карты й наладзіла справу рэгістрацыі сярэдняга мэдычнага пэрсаналу з мэтаю стварэньня пры АБЛЧ асобнай адмысловай сэкцыі.

АБЛЧ памагае сваім сябром у знаходзе працы, выстаўляе пасьветчаньні аб прафэсійнай адукацыі й прафэсійным стажы ў выпадку загубленьня дакумэнтаў. Падобныя пасьветчаньні выстаўляюцца й асобам сярэднага мэдычнага пэрсаналу. Урад АБЛЧ як мага пільна сочыць усе важныя для лекароў справы йдучага жыцьця й своечасна паведамляе аб іх зацікаўленых сяброў адмысловымі абежнікамі, якіх выдадзена ўжо дзесяць.

Урад АБЛЧ таксама робіць захады ў справе далейшае эміграцыі нашых лекароў і дзеля гэтага навязвае карэспандэнцыйную лучнасьць з адпаведнымі ўстановамі краёў, зацікаўленых такой эміграцыяй, а таксама з адпаведнымі міжнароднымі арганізацыямі.

АБЛЧ таксама навязала сяброўскую лучнасьць зь лекарскімі арганізацыямі іншых народаў ды беларускімі нацыянальнымі арганізацыямі як у Нямеччыне, так і ў іншых краёх Эўропы ды Амэрыкі.

Асаблівую ўвагу надае АБЛЧ справе памогі беларускім студэнтам на чужыне, а найперш памогі студэнтам мэдыкам, фармацэўтам і дэнтыстым, як грашыма, так і лекарскімі прыладамі, ды стараньнямі аб міжсэмэстральную шпітальную практыку.

Абавязкам усіх Беларусаў лекароў, дэнтыстых і фармацэўтаў, а таксама асобаў сярэдняга мэдычнага пэрсаналу, якія дагэтуль яшчэ не належаць да свае арганізацыі, зарэгістравацца ў ёй і дзейна супрацоўнічаць.

## У РЭДАКЦЫЮ

Сп. Рэдактар!

У сувязі зь цьверджаньнямі некаторых крыніцаў аб схвальшаваньні «Бацькаўшчынай» падпісанае мною адозвы да вайскоўцаў-Беларусаў, зьмешчанае ў № 9 (12) гэтае газэты, падаю да агульнага ведама, што беззасьцярожнае падтрыманьне аўтарытэту БНР і ейнага Прэзыдэнта М. Абрамчыка ды бязумоўнае жаўнерскае падпарадкаваньне ім становіць маё найшчырэйшае й найцьвярдзейшае перакананьне, схвальшаваць якое ня ўдасца ніколі нікому, у тым ліку і ўдаваным маім быццам-бы «прыяцелям» і няпрошаным адвакатам.

10. 5. 1948 г.

**Старшыня**
**Галоўнага Ураду Задзіночаньня**
**Беларускіх Вэтэранаў**
**Ф. Кушаль.**

## УВАЗЕ БЕЛАРУСАЎ БЭЛЬГІІ!

Кальпартэрам газэты «Бацькаўшчына» на Бэльгію працуе спадар Барысік Пятро. Ягоны адрыс: Barysik P. 19. S. Donnay, Flemalle, Liege.

Цана газэты ў Бэльгіі 1 экз. — **5 бэльг. франкаў.**

# З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## ВЯЛІКАЯ ПАРТЫЗАНКА

Нямецкі двутыднёвік „Die Brücke" ад 15. 3. 1948 г. перадрукоўвае артыкул з галяндзкае газэты „Haagschen Post", у якім піша аб зарганізаванай у саветах нямецкай арміі пад камандаваньнем ведамага фэльдмаршала фон-Паўлюса. Гэтая армія складаецца прыблізна з 36 дывізіёнаў, 10 цяжкіх танкавых дывізіяў, 8 лёгкіх і 7 зматарызаваных дывізіёнаў. Адна частка гэтае вялізнае арміі раскватэраваная на Крыме, другая каля Ладаскага возера, а трэйцяя ў ваколіцах Менску. Вось-жа гэтыя адзелы нямецкае арміі, — гаворыцца ў газэце, — нядаўна адбылі першую сваю баёвую пробу ў змаганьні зь беларускімі й летувіскімі партызанамі ў раёнах Коўня-Сувалкі й Горадзен-Менск. Апрача нямецкіх аддзелаў, узброеных наймадарнейшымі танкамі тыпу «Пантэра» і «Тыгер» ды расейскімі тыпу «Г 34» і «Г 41», у гэтых баёх бралі таксама ўдзел два расейскія панцырныя дывізіёны і 172 пяхотны дывізіён. Далей газэта падае, што ад 17 да 19 верасьня 1947 г. чыгуначная лінія Менск-Вільня, што становіць галоўную артэрыю для лучнасьці Прусы-Масква, была ў трох месцах у руках партызанаў, і ўсякі рух быў на ёй спынены.

Гэтая вестка, пададзеная галяндзкай газэтай, даець яшчэ адзін довад таго, што волялюбны наш народ ня зьмірыўся із жорсткаю няволяю маскоўскага бальшавізму й вядзе зацятае змаганьне супраць зьненавіджанага акупанта.

## УСЁ ЯШЧЭ Ў ЗЯМЛЯНКАХ

Яшчэ ў самапершым нумары нашае газэты за 1947 г. мы падавалі весткі зь Менскае «Зьвязды», што ў БССР каля 30 000 сем'яў яшчэ дагэтуль жыве па зямлянках. Як ведама з выпадкаў зьнішчэньня вясковых дамоў пажарам, Беларус умее даволі борзда адбудавацца ў найгоршых абставінах. Тое, што так шмат людзей і дагэтуль мусіць гараваць па зямлянках, гаворыць аб тым, што ў бальшавіцка-калгасных абставінах беларускі селянін ня мае магчымасьці выявіць сваю зараднасьць і гаспадарлівасьць.

Як падае тая-ж «Зьвязда», «такія арганізацыі, як Менгоргандаль, Белсампромсаюз, міністэрства камунальнай гаспадаркі — нічога не зрабілі для дапамогі падлеглым калгасам у вадбудове жылых дамоў».

У Заслаўскім раёне за пяць апошніх месяцаў пабудавана толькі 2 дамы, у Бярэзінскім, Лагойскім і Узьдзенскім раёнах — 10 дамоў. У Лёзьненскім раёне Віцебшчыны будаўнічыя брыгады працуюць толькі ў 5-6 калгасах. Толькі адна брыгада «Бязбожнік» Унаўскага сельсавету выявіла некаторую актыўнасьць.

Не памагае адбудове дамоў калгасьнікаў і «аблспажыўсаюз» Віцебску. Гэтая арганізацыя павінна была даць калгасным будоўлям паўтары тысячы пілаў, 4 000 сякераў, 9 500 камплетаў печнага ліцьця ды больш за 50 000 штук акоўкі да дзьвярэй і вокнаў. А тымчасам ніводная калгасная будоўля ад «аблспажыўсаюзу» нічога не атрымала, за выняткам аднае акоўкі (!).

Віцебскі акруговы камітэт КП(б)Б сваім часам прыняў дзесяткі пастановаў аб будаўніцтве калгасных дамоў, але бальшыня іх засталася й дагэтуль нявыкананай.

У Гомельскай акрузе дагэтуль жывець яшчэ ў зямлянках 4 700 сем'яў. Як падае карэспандэнт «Зьвязды» з Гомельшчыны, партыйны актыў заняты іншай справай, а ня будоўляй хатаў. Так, Рагачэўскі райвыканком нядаўна праводзіў паседжаньне, якое трывала тры дні. А ў Будакашалёўскім райвыканкоме разглядаюць аж па 70 справаў на адным паседжаньні (!)...

## БЕЛАРУСКІ ПАЭТА ПЯЕ ПРА... МАСКВУ

Паэта Пятрусь Броўка дастаў Сталінскую прэмію другой ступені за паэму «Думы пра Маскву».

Вось пэрлік з гэтага «перадавога» твору:

«Будзь-жа слаўна, на вечныя годы,
Нельга ў сэрцы любові стрываць,
Поўна дум пра цябе галава,
Да цябе ўсе хінуцца народы,
Што ад сэрца сьпяваюць заўсёды:
З намі Сталін і наша Масква».

Із хваласьпеву гэтага бачым, што прэміяваны твор ня гэтулькі мастацкі, колькі... паплатны.

# *ШУКАЮЦЬ . . .*

**Кошт абвесткі — па аднэй марцы за кажнае паасобнае слова. Аплата наперад.**

Брата **Машчанскага Аляксандра,** нар. 1920 г. у Райцы, Наваградзкага павету, апошнім часам быў у Цьвітаў (Судэтэнлянд, 9-b) — Машчанскі Адам. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Сыноў **Пэнда Мячыслава й Аляксандра, Рокача Мірона** — Пэнда Мікалай. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

**Караленку** Міколу з жонкай Ядзьвігай і дачушкай Славай — кумы й сябры. Усіх, хто ведаў-бы пра іхнае месцазнаходжаньне — просьба паведаміць на адрыс рэдакцыі «Бацькаўшчыны».

Маці **Дуброўскую** Аляксандру й сёстраў Люсю й Вольгу — Сяргей. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Whiteruthenian Newspaper „The Fatherland"
Authorized by Headquarters European Command Civil Affairs Division APO 757, A. G. 383, 7 GEC-AGO.
Administration — (13b) Osterhofen, Ndby., Whiteruthenian D. P. Camp.
Printed by: Hils & Maier, Dingolfing, Bruckstraße 99.